Навучальная праграма Акадэміі Астрагорскага

# Вялікае Княства Літоўскае ў еўрапейскай і беларускай гісторыі




**Выкладчык:**
**Аляксандр Краўцэвіч, доктар гістарычных навук**




2017

WWW.OSTROGORSKI.ACADEMY

# ЗМЕСТ

# МЭТЫ КУРСА

Асноўная мэта курса: прадстаўленне месца і значэння сярэднявечнай і навачаснай дзяржавы пад назвай "Вялікае Княства Літоўскае" ў агульным кантэксце еўрапейскай і беларускай гісторыі.

Па паспяховым сканчэнні курса яго ўдзельнікі набудуць веды:

- пра генезіс дзяржавы ў параўнанні з іншымі краінамі Цэнтральна-Усходняй Еўропы;
- пра асаблівасці і складанасці развіцця дзяржавы ва ўмовах цывілізацыйнага памежжа;
- пра дзейнасць ВКЛ у якасці фарпоста еўрапейскай цывілізацыі;
- пра месца ВКЛ у гісторыі Беларусі.

Цалкам курс даступны на сайце Акадэміі Астрагорскага: http://ostrogorski.academy/courses/gdl.

# ВЫКЛАДЧЫК



**Аляксандр Краўцэвіч** – археолаг, доктар гістарычных навук і сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Даследуе сярэднявечную і навачасную гісторыю Беларусі. Закончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, аспірантуру Інстытута археалогіі Акадэміі навук СССР і дактарантуру БДУ. Ад 1999 г. выкладае ў беларускіх і польскіх ВНУ. Нарадзіўся ў вёсцы Лупачы на Гарадзеншчыне.

# ЗАНЯТКІ

| | |
|---|---|
| **Першая тэма** | **Як паўстала ВКЛ?** |
| **Відэа** | https://youtu.be/yWoVAfeAU7s |
| **Веды** | • Канцэпцыі генезы ВКЛ<br>• Лакалізацыя, час і абставіны ўзнікнення ВКЛ<br>• Прычыны ўзнікнення ВКЛ |
| **Рэсурсы** | • Насевіч В. Дзейнасць першых вялікіх князёў літоўскіх і рускіх [у:] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага Княства Літоўскага. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 73–87.<br>• Гудавичюс Э. История Литвы с древнейших времен до 1569 г. Т. 1. Москва: Baltrus, 2005. С. 46–51.<br>• Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Беласток: Вышэйшая Школа Публічнай Адміністрацыі імя Станіслава Сташыца, 2008. http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=472 |

## 1. Як паўстала ВКЛ?

На сённяшні дзень не выпрацавана адзінай агульнапрызнанай канцэпцыі пачаткаў ВКЛ. Дыскутуюцца прынамсі тры версіі: летувацэнтрычная, беларусацэнтрычная і біэтнічная. Пра іх будзе гаворка, але пакуль – факты.

# Месца і прычыны ўзнікнення ВКЛ

Вялікае Княства Літоўскае ўзнікла каля сярэдзіны 13 ст. у басейне Верхняга і сярэдняга Нёмана, дакладней у рэгіёне пад назвай “Літва” (у гістарыяграфіі называецца “Уласна Літвой” або гістарычнай Літвой, складаецца з сённяшніх: Наваградчыны, Гарадзеншчыны, Віленшчыны і заходняйársткі Меншчыны).

**Этнічная Літва ў час стварэння ВКЛ**




Узнікненне новай дзяржавы можна акрэсліць як Адказ на Выклік гісторыі, сфармуляваны ў выглядзе некалькіх важных падзей, якія парушылі ўсталяваны лад у Літве, прынеслі пачуццё рэальнай пагрозы і зрабілі немагчымым працяг ранейшага эвалюцыйнага развіцця. У парадку чарговасці гэта былі: 1. З'яўленне і актыўная экспансія нямецкіх энклаваў ва Усходняй Прыбалтыцы ў канцы XII – першых дзесяцігоддзях XIII ст. (у Інфлянтах і Прусіі). 2. Пагром паўднёвай і усходняй Русі мангола-татарамі ў 1238–1240 гг.

На гэты час Панямонне (Літва) уяўляла сабой зону змешанага балта-славянскага насельніцтва, у якой гарадскія цэнтры: Наваградак, Гародня, Ваўкавыск, Слонім былі славянскімі (з летапісу вядома пра Гарадзенскае, Наваградскае, Слонімскае, Ваўкавыскае княствы), а вясковая ваколіца складалася як са славянскіх, так і балцкіх паселішчаў. У рускіх летапісах гэтая тэрыторыя мела назву "Літва" (ад адной з балцкіх земляў на пагранiччы, падобна як ад пагранічных земляў атрымалі свае назвы Прусія і Лівонія).

У 1238–1240 гг. уся паўднёвая і паўночна-ўсходняя Русь была зруйнаваная мангола-татарамі. Татарская навала знішчыла існуючыя там дзяржавы, перасекла традыцыйныя гандлёвыя шляхі. Пагроза з паўднёвага ўсходу пастаянна адчувалася і на Панямонні. Акрамя таго, знешняя небяспека пагражала з поўначы і з захаду: немцы з пачатку 13 ст. усталяваліся ў ніжнім цячэнні Дзвіны. Тэўтонскі ордэн, заваяваўшы Прусію, з 1283 г. распачаў актыўную агрэсію на Панямонне. На чатыры дзесяцігоддзі раней, у 1245 г., Ордэн атрымаў ад імператара прывілей на валоданне будучымі тэрытарыяльнымі набыткамі ў Літве.

## Як і калі пачыналася дзяржава

Пачаткам новай дзяржавы (ВКЛ) на Панямонні стаў прыход на княжанне ў Наваградак балцкага князя Міндаўга, які адбыўся каля 1248 г. Невядома дакладна, якім чынам Міндаўг усталяваўся ў Наваградку. Ад XIX ст. у гістарыяграфіі замацавалася версія (летувацэнтрычная) заваёвы Міндаўгам Наваградка і іншых беларускіх гарадоў Панямоння і далучэння іх да раннефеадальнай літоўскай дзяржавы, якая аб'яднала ў канцы XII – пачатку XIII ст. усе літоўскія землі.

Альтэрнатыўную версію генезы ВКЛ (беларусацэнтрычную) прапанаваў беларускі гісторык Мікола Ермаловіч у 80-я г. 20 ст. Паводле Ермаловіча,



*Князь Міндаўг*

Міндаўг быў прыняты на службу навайградцамі як князь-ізгой, пацярпеўшы паразу ў Літве і ўцёкшы ў Наваградак (выразная аналогія з Даўмонтам – князем пскоўскім). Атрымаўшы ад навагрдцаў грошы і войска, Міндаўг заваяваў для іх Літву, якую Ермаловіч бачыў востравам балцкага насельніцтва ў беларускім этнічным абшары.

Абедзве гэтыя версіі не маюць прамога пацверджання ў пісьмовых крыніцах, акрамя таго яны знаходзяцца ў супярэчнасці з вынікамі спецыяльных даследаванняў працэсу балта-славянскіх кантактаў. Традыцыйная "балцкая" канцэпцыя генезы ВКЛ, гэтаксама як і тэорыя Ермаловіча, грунтуецца на тэзе балта-славянскай канфрантацыі (розніца толькі ў акрэсленні пераможцы), а шматгадовыя комплексныя даследаванні, праведзеныя лінгвістамі, археолагамі, этнографамі, даказалі агульны мірны характар балта-славянскіх кантактаў. Пісьмовыя крыніцы не зафіксавалі выпадкаў міжэтнічных канфліктаў балцкіх і славянскіх насельнікаў Панямоння, гэтаксама як і прысутнасці балцкай (літоўскай) дзяржавы да прыходу Міндаўга ў Наваградак. Таксама невядома ніводнага выпадку ўзброенага прыходу (а толькі па запрашэнні) балцкага князя на стол рускага горада ў XII–XIII стст.

## Біэтнічная канцэпцыя

Па ўсёй імавернасці, пачаткам дзяржавы стаў саюз дзвюх галоўных палітычных сілаў у Панямонні: беларускіх гарадоў-дзяржаў і мацнейшых правадыроў балцкіх плямёнаў, а дакладней, саюз багацейшага горада

рэгіёна – Наваградка з мацнейшым балцкім кунігасам Міндаўгам (біэтнічная канцэпцыя стварэння ВКЛ).

Паводле бліжэйшых аналогій (крыніцамі апісаныя факты прыходу іншых князёў балцкага паходжання на сталы ўсходнеславянскіх гарадоў-княстваў: Даўмонт у Пскове – 1265 г., Таўцівіл у Полацку – між 1258–1262 гг.) можна меркаваць, што, верагодна, мела месца запрашэнне Міндаўга на наваградскі стол у якасці служылага князя. Адбылося гэта каля 1248 г.; да гэтага года адносіцца першае сведчанне летапісу пра існаванне саюза Наваградка з Міндаўгам. Менавіта, падчас першай вайны новай дзяржавы галіцка-валынскае войска зімой 1249–1250 гг. пайшло супраць Міндаўга на Наваградак.

Адсюль вынікае, што ВКЛ пачыналася як біэтнічная балта-славянская ці, па сённяшняй тэрміналогіі, летувіска-беларуская дзяржава.

| Другая тэма | Чыёй дзяржавай было ВКЛ? |
|---|---|
| Відэа | https://youtu.be/Iyn6bxWJ_Bs |
| Веды | • Этнічныя чыннікі ў генезе ВКЛ<br>• Паняцце "Гістарычнай Літвы" ("Уласна Літва"; "Lithuania propria")<br>• Працэс балта-славянскіх кантактаў |
| Рэсурсы | • Сагановіч Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца 18 ст. Мн.: "Энцыклапедыкс", 2001. С. 175–182.<br>• Насевіч В. Л. Да пытання пра нацыянальны характар Вялікага княства Літоўскага [у:] Усебеларуская канферэнцыя гісторыкаў: Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь (новыя канцэпцыі і новыя падыходы). Мінск, 3–5 лютага 1993 года. Тэзісы дакладаў і паведамленняў. Ч. 1. Мн., 1993. С. 55–58.<br>• Краўцэвіч А. Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2003. Nr 19. S. 212–218.<br>• Краўцэвіч А. Праблема лакалізацыі сярэднявечнай Літвы // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 1997. № 8. S. 5–30. |

## 2. Чыёй дзяржавай было ВКЛ?

Дыскусія пра этнічную ці нацыянальную прыналежнасць ВКЛ ідзе ў асноўным паміж летувіскімі і беларускімі гісторыкамі і часцей у публіцыстыцы, чым у навуковай гістарыяграфіі. Летувісы даказваюць

выключна летувіскі характар дзяржавы, беларусы трактуюць ВКЛ як беларускую або беларуска-літоўскую дзяржаву.

## Як карэктна сфармуляваць праблему?

Аднак такая пастаноўка пытання і, адпаведна, адказ на яго навукова некарэктныя, бо ў часы ВКЛ не існавала летувіскага і беларускага народа ў сучасным іх разуменні, а сама дзяржава была шматэтнічнай. Спробы давесці летувіскі ці беларускі характар ВКЛ базуюцца на памылковым стэрэатыпным метадзе рэканструкцыі мінулага, менавіта "мадэрнізацыя гісторыі". Па-першае, на сярэднявечную дзяржаўную арганізацыю пераносіцца сучаснае разуменне дзяржавы як механізму рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў. Па-другое, пры аналізе дзейнасці сярэднявечных людзей ім міжвольна прыпісваецца веданне вынікаў гістарычнага працэсу ў новыя і найноўшыя часы.

Навукова карэктным будзе паставіць пытанне не пра нацыянальны характар дзяржавы, а пра яе спрыянне (ці неспрыянне) фармаванню сучасных беларускага і летувіскага народаў. Вядома, што ў выніку паланізацыі элітаў і летувісы і беларусы ўвайшлі ў 19 ст. як "сялянскія народы" і стварэнне сучаснага народа ў іх адбывалася на базе традыцыйнай сялянскай культуры. Таму, калі мы хочам высветліць этнічны характар ВКЛ, то павінны вывучыць найперш уплыў ягонай дзяржаўнай арганізацыі на традыцыйную сялянскую культуру летувісаў і беларусаў. Для гэтага найперш патрэбна адказаць на два пытанні:

1. Быў гэты ўплыў свядомым ці праяўляўся аб'ектыўна?

2. Ці быў гэты ўплыў больш спрыяльным для аднаго і менш спрыяльным для другога этнасу?

1. Па ўсёй імавернасці, дзяржаўная арганізацыя ВКЛ не праводзіла свядомага ўплыву на этнічную сітуацыю ў краіне, а выкарыстоўвала для

забеспячэння свайго функцыянавання больш прыдатную, г.зн. больш развітую культуру з тых, што меліся ў наяўнасці.

У сярэдзіне 13 ст., калі паўставала ВКЛ, летувіскі этнас быў пераважна няхрышчаны, не меў уласнай пісьмовасці, традыцый дзяржаўнага жыцця, не ўмеў будаваць гарады і мураваную архітэктуру і колькасна складаў меншасць у дзяржаве. У такіх умовах панавальная дынастыя балцкага (магчыма, летувіскага) паходжання для абслугі дзяржаўнага жыцця (і ў жыцці прыватным таксама) натуральна прыняла старабеларускую культуру (афіцыйную мову, сістэму кіравання, права і г.д.).

2. Адказ на другое пытанне, пра большае ці меншае спрыянне дзяржавы адной з традыцыйных культур, можа быць сфармуляваны незалежна ад адказу на першае. Важнейшым і хіба адзіным даступным нам крытэрам будуць змены (пашырэнне ці звужэнне) этнічных арэалаў беларусаў і летувісаў за час існавання ВКЛ. Ва ўмовах доўгачасовага блізкага суседства павелічэнне арэалу аднаго этнасу магчымае толькі коштам тэрыторыі другога. Прасачыўшы змены этнічнай мяжы паміж беларусамі і летувісамі ў часы існавання ВКЛ, мы можам высветліць, каму з іх больш паспрыяла паўтысячагадовае функцыянаванне дзяржавы. Адказ на гэтае пытанне будзе таксама этнічнай характарыстыкай ВКЛ і адначасова пакажа на першачарговае (а, можа, роўнае) права беларусаў або летувісаў на гістарычную спадчыну Вялікага Княства.

Змены беларуска-летувіскай этнічнай мяжы на працягу 2 тыс. н.э. добра вывучаныя ў выніку спецыяльных навуковых даследаванняў. Навукоўцы (археолагі, мовазнаўцы, этнолагі) праз шматгадовае вывучэнне працэсу балта-славянскіх кантактаў высветлілі, што на працягу існавання ВКЛ адбылося значнае пашырэнне этнічнага арэалу беларусаў коштам этнічна летувіскай тэрыторыі (этнічная мяжа перамясцілася прыблізна ад лініі Нёмана (“лініі Сафарэвіча”) амаль да самай Жамойці.)




## Якому народу больш спрыяла дзейнасць ВКЛ?

Адсюль выснова, што дзяржаўная арганізацыя ВКЛ аб'ектыўна аказалася больш спрыяльнай для традыцыйнай культуры беларусаў. Гэтую выснову дапаўняюць іншыя гістарычныя факты:

– Беларускія землі складалі асноўную частку дзяржавы і былі сабраныя ў адзіным дзяржаўным арганізме ўжо ў 14 ст., у той час як летувіскія землі поўнасцю ў складзе ВКЛ апынуліся на паўстагоддзя пазней (Жамойць).



*Статут ВКЛ*

– Літаратуры на беларускай мове ў часы ВКЛ было створана непараўнальна больш, чым на мове летувіскай. Агромністая дакументальна-пісьмовая спадчына ВКЛ, створаная на афіцыйнай старабеларускай мове, складае гістарычна-культурны патэнцыял у першую чаргу беларускага, а не летувіскага народа.

Агульная выснова: Функцыянаванне дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ было больш спрыяльным для традыцыйнай беларускай, чым традыцыйнай летувіскай культуры, таму з сучаснага пункту погляду ВКЛ было больш беларускай, чым летувіскай дзяржавай.

| Трэцяя тэма | Ці існавала ў ВКЛ праблема цывілізацыйнага выбару? |
|---|---|
| Відэа | https://youtu.be/FsKj8ZUtF-U |
| Веды | • Сітуацыя краіны на паграніччы цывілізацый<br>• Пераход ад візантыйскай арыентацыі да заходнееўрапейскай |
| Рэсурсы | • Сагановіч Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца 18 ст. Мн.: “Энцыклапедыкс", 2001. С. 79–81, 162–175.<br>• Краўцэвіч А.К. Тварам да Захаду. Змена цывілізацыйнай арыентацыі Беларусі (1240–1385 гг.) [у:] Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зб. навук. арт. У 2 ч. Ч. 1 / ГрДУ імя Я.Купалы; рэдкал.: С.В.Марозава [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2009. С. 128–146.<br>• Кравцевич А. Вход Беларуси в европейскую мир-экономику (на примере материальной культуры) // Optimum. Studia ekonomiczne. Białystok, 2005. Nr. 3(27). S. 100–105. |

## 3. Ці існавала ў ВКЛ праблема цывілізацыйнага выбару паміж Захадам і Усходам?

Узніклае ў сярэдзіне 13 ст. Вялікае Княства Літоўскае аб'яднала ў сваіх межах зону цывілізацыйнага паграніччa і разам з ім пераняло яе найважнейшую дылему – выбар між Усходам (Візантыяй) і Захадам (Заходняя Еўропа).

## Між Візантыяй і Заходняй Еўропай

Якраз на памежжы цывілізацый такія з'явы, як аслабленне адной і ўзмацненне другой, праяўляюцца найвідочней у звужэнні арэалу слабейшай і пашырэнне межаў мацнейшай цывілізацыі. У 13 ст. Усходнерымская (Візантыйская) імперыя ўжо страціла даўнейшую сілу. Мангольскі пагром паўднёвай і ўсходняй Русі ў 1238–1240 гг. і ўладкаванне ў прычарнаморскім стэпе Залатой Арды перарвалі даўнія культурныя сувязі з візантыйскімі землямі. У той самы час заходнееўрапейская цывілізацыя ўзмацнялася і пашырала межы сваіх уплываў. Значны дэмаграфічны ўздым у Заходняй Еўропе выклікаў міграцыйны рух заходнееўрапейцаў, у першую чаргу з нямецкіх земляў, у слаба заселеныя краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Адным з наступстваў гэтай міграцыі стала ўзнікненне нямецкіх калоній у Прыбалтыцы (Інфлянты і Прусія).

Гэтыя нямецкія энклавы, якія здолелі стварыць у 13 ст. уласныя і даволі моцныя (Ордэнская дзяржава ў Прусах) дзяржаўныя арганізацыі, сталі актыўным праваднікам заходнееўрапейскіх уплываў на суседнія тэрыторыі Літвы і Беларусі.

## Паварот з Усходу на Захад

Ва ўмовах аслаблення Усходу і пад ціскам Захаду ў ВКЛ ад сярэдзіны 13 да канца 14 ст. праходзіла перамена цывілізацыйнай арыентацыі з усходняй – візантыйскай на заходнееўрапейскую. Пераарыентацыя адбывалася паралельна ў сферы матэрыяльнай (прыняцце заходнееўрапейскіх узораў матэрыяльнай культуры) і духоўнай (каталіцкае місіянерства, спробы хрышчэння ўладароў) як эвалюцыйны працэс праз накапленне і пераход у новую якасць.

Узмацненне прысутнасці Захаду ў ВКЛ распачалося ў другой палове 13 – пачатку 14 ст. Беларускія і ўкраінскія землі мелі даўнія сувязі з

суседнімі Польшчай і Венгрыяй – менавіта адтуль паходзяць першыя заўважныя сведчанні заходнееўрапейскага ўплыву ў ВКЛ. Гэта архітэктурныя помнікі гатычнага стылю – г.зв. вежы валынскага тыпу, якія былі ўзведзены ў другой палове 13 ст. у Берасці, Гародні, Камянцы, Наваградку і Тураве. У пачатку 14 ст. аналагічная пабудова з'явілася і ў Полацку. Да нашых дзён ацалелі толькі слынная Камянецкая вежа і руіны вежы "Шчытоўка" на Наваградскім замку. Ад 14 ст. усе культавыя будынкі розных хрысціянскіх і нехрысціянскіх канфесій будаваліся паводле еўрапейскіх архітэктурных стыляў – готыкі, рэнесансу, барока.



*Камянецкая вежа*

У палітычным сэнсе вялікія князі літоўскія былі змушаныя вырашаць праблему цывілізацыйнага выбару ад самага пачатку дзяржавы. З аднаго боку – ішоў наступ Захаду, найперш у форме экспансіі дзяржавы Тэўтонскага ордэна, і павялічвалася матэрыяльная прысутнасць заходнееўрапейскай культуры. З другога – большая частка дзяржавы – беларускія землі, прадстаўляла даўнюю візантыйскую традыцыю, а меншая частка – балцкая (землі яцвягаў і літоўцаў) яшчэ трывала пры традыцыі племяннога язычніцкага грамадства. Вярхоўная ўлада ў ВКЛ больш за стагоддзе імкнулася прымірыць усе наяўныя культурна-рэлігійныя традыцыі праз правядзенне дзяржаўнай палітыкі талерантнасці.

У сярэдзіне 13 ст. адбылася адна важная падзея – сведчанне ўзмацнення заходнееўрапейскага палітычнага ўплыву на беларускіх землях. У 1251 і 1253 гг. у Наваградку прайшло хрышчэнне ў каталіцтва,



*Хрышчэнне Міндаўга*

а потым каранацыя з санкцыі папы рымскага першага гаспадара новай беларуска-літоўскай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, Міндаўга. І хоць пазней вялікі князь адышоў ад каталіцтва і не ўжываў каралеўскага тытула, традыцыя была закладзеная.

## Палітычны выбар на карысць Захаду

У 14 ст. кожны чарговы вялікі князь літоўскі (Віцень, Гедымін, Альгерд, Ягайла) дэклараваў сваю волю (хоць і выключна як дыпламатычны прыём) да прыняцця хрысціянства паводле заходняга абраду. Свядомы выбар далучэння краіны да Захаду цывілізацыі выканаў вялікі князь Ягайла ў 1385 г. праз Крэўскую унію. У1386–1387 гг. вялікі князь сам перахрысціўся ў каталіцтва, ахрысціў у каталіцтва сваіх падданых-паганцаў і многіх праваслаўных і ўвёў дзяржаўную пратэкцыю новай веры. Гэтакім чынам быў рэалізаваны палітычны выбар заходнееўрапейскай арыентацыі.

Ягайла меў канкрэтную альтэрнатыву ў выбары паміж Усходам і Захадам. З аднаго боку шлюб з дачкой маскоўскага князя і, адпаведна, арыентацыя на Усход. З другога – жаніцьба з польскай каралевай і акрэсленне арыентацыі на Захад. У Ягайлавай дзяржаве колькасна дамінавалі праваслаўныя, таму ўсходні праект, несумненна, ацэньваўся дастаткова сур'ёзна. Аднак сувязі з Захадам і ўплывы апошняга ўжо былі настолькі моцнымі, каб пераважыць пры прыняцці рашэння.

ВКЛ стала складовай часткай заходнееўрапейскай цывілізацыі, менавіта рэгіёна “Цэнтральна-Усходняя Еўропа”, і трымалася ў ёй да канца 18 ст. Потым зноў наступіла змена цывілізацыйнай арыентацыі, з еўрапейскай на расейскую, але на гэты раз без выбару – пад прымусам ва ўмовах расейскай акупацыі.

| Чацвёртая тэма | Якая рэлігія дамінавала ў ВКЛ? |
|---|---|
| **Відэа** | https://youtu.be/arHyFbeZ9dw |
| **Веды** | • Рэлігійная палітыка вялікіх князёў літоўскіх<br>• Прынццe каталіцтва дзяржаўнай рэлігіяй<br>• Развіццё рэлігійнай сітуацыі ў дзяржаве |
| **Рэсурсы** | • Сагановіч Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца 18 ст. Мн.: “Энцыклапедыкс”, 2001. С. 153–162.<br>• Chodynicki K. Próby zaprowadzenia chrześcijaństwa na Litwie przed r. 1386 // PH. 1914. T. 18. S. 215–319.<br>• Krawcewicz A. Stosunki religijne w Wielkim Księstwie Litewskim w XIII wieku i poczatkach XIV stulecia [w:] Między Rusią a Polską. Litwa. Od Wielkiego Księstwa Litewskiego do Republiki Litewskiej. Warszawa, 2014. S. 41–48. |

## 4. Якая рэлігія дамінавала ў ВКЛ?

У ВКЛ ад самага пачатку існавання дзяржавы склалася ўнікальная рэлігійная сітуацыя, аналагаў якой не было нідзе ў Еўропе. ВКЛ узнікла ў зоне змешанага славяна-балцкага, хрысціянска-язычніцкага насельніцтва, у якой стагоддзямі мірна ўжываліся славяне-хрысціяне і балты-язычнікі.

## ВКЛ як памежжа рэлігій

Панямонне было месцам сутыкнення дзвюх галінаў хрысціянства (каталіцтва, праваслаўя) з усходнеславянскімі і балцкімі паганскімі культамі. Хрысціянства паводле візантыйскага абраду (праваслаўе) распаўсюджвалася тут мірным эвалюцыйным шляхам. Даходзілі таксама місіянеры з захаду, пра што сведчыць першая вядомая згадка ў крыніцах пра Літву, менавіта святы Бруна быў забіты паганцамі "на мяжы Літвы і Русі" ў 1009 г. У 1253 г. каталіцкі місіянер, хутчэй за ўсё францысканец ці дамініканін, быў сведкам каранацыі Міндаўга.




*Каранацыя Міндаўга*

Рэлігійная сітуацыя стала больш напружанай ад пачатку 13 ст. са з'яўленнем у Прыбалтыцы нямецкіх энклаваў і манаска-рыцарскіх ордэнаў, афіцыйнай мэтай якіх было прымусовае хрышчэнне мясцовых язычнікаў.

## Палітыка рэлігійнай талеранцыі

У сваёй дзяржаве вялікія князі літоўскія праводзілі палітыку рэлігійнай талерантнасці, галоўная ідэя якой дакладна і выразна была акрэсленая ў дакументальна зафіксаваным выказванні вялікага князя Гедыміна ў 1324 г.: "Няхай хрысціяне (каталікі – *А.К.*) шануюць бога па-свойму, рускія (г.зн. праваслаўныя – *А.К.*) – па-свойму, а мы шануем бога па нашым звычаі, і ва ўсіх нас адзін бог".

Гаспадары ВКЛ у рэлігійных справах захоўвалі вялікую свабоду манеўру і ўмела карысталіся ёй дзеля дасягнення канкрэтных палітычных мэтаў. Ужо Міндаўг першым ужыў афіцыйную дэкларацыю свайго хрышчэння ў каталіцтва як дыпламатычны прыём у барацьбе з заходнімі крыжаносцамі. Паколькі ідэалагічнай падставай прысутнасці крыжакоў у Прыбалтыцы было хрышчэнне мясцовых язычнікаў, то дэкларацыя прыняцця каталіцкай веры (а потым яе рэалізацыя) дазволіла Міндаўгу разваліць варожую кааліцыю, перацягнуць Інфлянцкі ордэн на свой бок і ўратаваць дзяржаву. Амаль усе наступныя вялікія князі да Ягайлы ўключна ў самыя напружаныя моманты змагання з крыжакамі, каб аслабіць мілітарны націск Ордэна, агалошвалі жаданне прыняць каталіцтва. Аднак дэкларацыі гэтыя, як правіла, не выконваліся.

Ад сярэдзіны 13 ст. у ВКЛ усё больш выразна акрэсліваліся ўплывы заходнееўрапейскай цывілізацыі. Ідэалагічнае афармленне новай арыентацыі, а ва ўмовах сярэднявечча яно магло мець толькі рэлігійны характар, менавіта прыняцце афіцыйнай рэлігіяй у дзяржаве каталіцтва, стала толькі справай часу. Яе ажыццявіў вялікі князь Ягайла Альгердавіч у комплексе з палітычнай уніяй з Польскім каралеўствам у 1385–1386 гг.

## Дзяржаўная падтрымка каталіцызму

Палітычнае ўпрывілеяванне каталіцтва мела забяспечыць яму выжыванне ў краі з дамінаваннем праваслаўнага насельніцтва. Сёння такая палітыка называецца пазітыўнай дыскрымінацыяй.




Хоць галоўныя пасады ў дзяржаве маглі займаць толькі каталікі, у гаспадарскай радзе на першых месцах знаходзіліся і праваслаўныя магнаты. Дзяржаўная ўлада падтрымлівала таксама праваслаўную царкву.

У XVI ст. праваслаўныя нават фармальна былі зраўнаныя ў правах з каталікамі. (агульназямельныя прывілеі 1563, 1568 гг.). У першай

палове 16 ст. пад уплывам Рэфармацыі частка магнатэрыі, а за ёй і шляхта прынялі кальвінізм; лічыцца, што ў гэты час у ВКЛ дасягнула найвышэйшага ўзроўню верацярпімасці (у параўнанні з Заходняй Еўропай). Даследчыкі акрэсліваюць гэтую сітуацыю як асаблівую "ліберальна-плюралістычную або рэнесансна-гуманістычную мадэль рэлігійна-інтэлектуальнага жыцця" (па дэфініцыі праф. Сямёна Падокшына).

## Контррэфармацыя і канец талерантнасці

Сітуацыя пачала змяняцца з пачаткам Контррэфармацыі. Актыўную дзейнасць у ВКЛ разгарнуў Ордэн езуітаў, была заключана рэгіянальная царкоўная унія ў Берасці ў 1596 г. Частка праваслаўнай іерархіі прызнала верхавенства папы рымскага з захаваннем усходняй абраднасці. Аднак у адрозненне ад Заходняй Еўропы, рэлігійная барацьба ў ВКЛ не вылівалася ў рэлігійныя войны і вялася ў асноўным у форме літаратурнай палемікі. XVII ст. – сапраўдны росквіт палемічнай літаратуры.

Паступова з паглыбленнем эканамічнага і палітычнага крызісу ў Рэчы Паспалітай палітычны народ – шляхта адыходзіла ад палітыкі рэлігійнай талерантнасці, каталіцтва абвясціла панавальнай рэлігіяй і давяла справу да рэальнай дыскрымінацыі некаталіцкіх хрысціянскіх канфесій, менавіта пратэстантызму, праваслаўя і нават каталікоў усходняга абраду – уніятаў. Працяглы перыяд (13–16 стст.) рэлігійнай таленрацыі з фармальнай перавагай каталіцызму, але свабодным развіццём іншых канфесій змяніўся каталіцкай рэакцыяй. Ад 17 ст. каталіцызм стаў рэальна панавальнай рэлігіяй у Рэчы Паспалітай да самага яе канца.

| | |
|---|---|
| **Пятая тэма** | **Якое месца займала ВКЛ у сярэднявечнай і навачаснай Еўропе?** |
| **Відэа** | https://youtu.be/3DOPMdd9mdM |
| **Веды** | • ВКЛ у палітычнай сістэме Цэнтральнай і Усходняй Еўропы<br>• ВКЛ як фарпост Еўропы<br>• ВКЛ як частка еўрапейскай гаспадаркі-свету |
| **Рэсурсы** | • Снапкоўскі У.Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі. Мн.: БДУ, 2003. С. 59–138.<br>• Гісторыя Беларусі ў 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд ВКЛ. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 96–167.<br>• Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс: ЕГУ, 2011. С. 52–70. |

## 5. Якое месца займала ВКЛ у сярэднявечнай і навачаснай Еўропе?

ВКЛ у заходнееўрапейскім кантэксце ад пачатку было незвычайным дзяржаўным утварэннем. Яго называюць “самай позняй раннефеадальнай дзяржавай” у Еўропе. Суседнія краіны прайшлі перыяд г.зв. патрыманіяльнай манархіі (калі ўся краіна лічыцца ўласнасцю манарха) у 10–11 стст. (Польшча, Венгрыя, Чэхія, Кіеўская Русь), а ў ВКЛ гэты перыяд прыпаў на 13–14 стст. У суседзяў перыяд феадальнай раздробленасці ў 14 ст. заканчваўся, у ВКЛ ён ледзь пачаўся ад канца 70-х гадоў 14 ст. і тут жа змяніўся цэнтралізацыяй,

праведзенай вялікім князем Вітаўтам у канцы 14 – пачатку 15 ст. Дарэчы, у гэтай справе, менавіта ўзмацненні цэнтральнай улады, ён апярэдзіў шмат якія еўрапейскія краіны, напрыклад Францыю.




*Вялікі князь Вітаўт*

## ВКЛ як частка Цэнтральна-Усходняй Еўропы

Шматвекавая прысутнасць у палітычным, гаспадарчым і духоўна-культурным жыцці Еўропы дазволіла сённяшнім гісторыкам (найперш з вядомага люблінскага асяродку на чале з прафесарам Ежы Клачоўскім) аднесці ВКЛ да рэгіёна Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Да гэтага рэгіёна належаць таксама тэрыторыі былых каралеўстваў Чэшскага, Венгерскага і Польскага.

Агулам беручы, ВКЛ у Еўропе перыяду сярэднявечча і Новага часу было краінай перыферыйнай, як у палітычным, так і гаспадарчым сэнсе. Але не ў культурным.

Пра ўсё па парадку. У палітычную сістэму Заходняй Еўропы гэтая дзяржава ўвайшла пад канец 14 ст. праз зацвярджэнне каталіцызму як фармальна дзяржаўнай рэлігіі. Зрабіў гэта вялікі князь Ягайла Альгердавіч у 1387 г. ВКЛ стала суб'ектам міжнароднага права, у прыватнасці, ужо ў пачатку 15 ст., разам з Польшчай Літва вяла міжнародныя судовыя працэсы супраць Тэўтонскага ордэна. Аднак усе важнейшыя цэнтры палітычнага жыцця тагачаснай Еўропы знаходзіліся далёка на захадзе.

Упершыню актыўны ўдзел у вялікай еўрапейскай палітыцы ўзяў вялікі князь Вітаўт, які згадзіўся прыняць чэшскую карону ад гусітаў і ў 1422 г. выслаў у Чэхію свайго намесніка.

## Роля ВКЛ ва Усходняй Еўропе

Знаходзячыся на памежжы з Усходняй Еўропай, ВКЛ актыўна змагалася за лідарства ў гэтым рэгіёне і дасягнула мэты ў 14 ст. у барацьбе найперш з Залатой Ардой і падуладнымі ёй княствамі Паўночна-Усходняй Русі. Пры гаспадаранні дуумвірату Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў у 1345–1347 гг. ВКЛ аб'яднала пад сваёй уладай большасць земляў былой Кіеўскай Русі.

У Новы час, пачынаючы ад 16 ст., ВКЛ у саюзе з Польскім каралеўствам выконвала ролю своеасаблівага "шчыта Еўропы" перад экспансіяй Расейскай дзяржавы. Гэтую гістарычную ролю прысвоіла сабе Польшча ў сваёй гістарыяграфіі, але ў рэальнасці маскоўскія атакі ў 16–17 стст. прымалі на сябе найперш беларускія землі ВКЛ.

У гаспадарчым плане ВКЛ, паводле канцэпцыі Фернана Брадэля, належала да перыферыі еўрапейскага свету-гаспадаркі, г.зн. было пастаўшчыком сыравіны, у асноўным сельскагаспадарчых і лясных прадуктаў. Да перыферыі належалі таксама іншыя ўскраіны заходнееўрапейскай гаспадаркі: як Шатландыя, Ірландыя, поўнач Скандынавіі, паўднёвая Італія і, цытую Брадэля: "уся частка Еўропы, размешчаная на ўсход ад лініі Гамбург–Венецыя". Расея да Пятра І уяўляла сабой асобную гаспадарку-свет, замкнутую у сабе, якая жыла сваім жыццём.

## Перыферыйнасць ВКЛ як стымул культурнага развіцця

У культурным жыцці ў ВКЛ якраз з прычыны перыферыйнасці, памежнага становішча на сутыку культур і рэлігій выпрацавалася ўнікальная мадэль духоўна-культурнага жыцця, заснаваная на прынцыпе талерантнасці.

Такога не было ў сярэднявечнай Еўропе (пры засіллі схаластыкі і царкоўнага кантролю) і ў Еўропе навачаснай з яе рэлігійнымі войнамі і

гвалтоўнымі метадамі контррэфармацыі. Рэлігійная талерантнасць у ВКЛ спрыяла ўзнікненню даволі свабоднай творчай атмасферы і стымулявала развіццё гуманітарных навук. Не выпадкова ў ВКЛ быў адным з першых у Еўропе запачаткаваны кнігадрук на нацыянальнай (старабеларускай) мове – выданні Францішка Скарыны і складзены адзін з лепшых кодэксаў права – знакамітыя Літоўскія статуты.




Жыхары ў ВКЛ даволі масава навучаліся ў еўрапейскіх універсітэтах і потым працавалі на сутыку культур, ствараючы іх сінтэз. Добры прыклад такога сінтэзу – культурна-мастацкае жыццё горада Магілёва ў 16–17 стст. Магілёўцы, у асноўнай большасці праваслаўныя, стварылі ўласныя мастацкія школы на аснове заходнееўрапейскай традыцыі: жывапісу, кнігадруку, гравюры і архітэктуры. Да нашых дзён захаваўся адзін з помнікаў той архітэктуры – Мікалаеўская царква, стыль якога акрэсліваецца як “праваслаўнае барока”.

Падсумоўваючы. Памежная лакалізацыя ВКЛ абумовіла яго перыферыйнасць адносна Еўропы ў сэнсе палітычным і эканамічным. У той жа час памежнасць, перыферыйнасць аказалася спрыяльнай для развіцця культуры дзякуючы адноснай духоўнай свабодзе, уласцівай сітуацыі пагранічча цывілізацый.

| Шостая тэма | Як звязаны з ВКЛ “залаты век” беларускай культуры? |
|---|---|
| **Відэа** | https://youtu.be/xlB7bsbmhCs |
| **Веды** | • Дэмаграфічны і эканамічны ўздым канца 15 – 16 ст.<br>• Росквіт беларускай культуры<br>• Гісторыя Беларусі ў 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд ВКЛ. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 590–638. |
| **Рэсурсы** | • Сагановіч Генадзь. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца 18 ст. Мн.: “Энцыклапедыкс”, 2001<br>• Падокшын С. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998. |

## 6. Як звязаны з ВКЛ “залаты век” беларускай культуры?

Спачатку высветлім, чаму ў навуковых працах гэтае акрэсленне – “залаты век” бярэцца ў двукоссе. Гэта ўмоўная назва, якая выкарыстоўваецца ў беларускай гістарыяграфіі адносна перыяду 15–16 стст. Лічыцца, што ў гэты час беларуская культура перажывала найвялікшы ўздым за ўсю гісторыю краіны.

Паспрабуем разабрацца, ці сапраўды гэта так і ці звязаны росквіт беларускай культуры з дзейнасцю ВКЛ, бо ў рэальнасці не ўсё ў краіне на той час было так адназначна добра. Напрыклад, ад канца 15 ст. пачаліся цяжкія войны з Маскоўскай дзяржавай, падчас якіх беларускія землі цярпелі ад маскоўскіх нападаў.




## Еўрапейскі гаспадарчы ўздым

Ад другой паловы – канца 15 ст. пачаўся дэмаграфічны і гаспадарчы ўздым па ўсёй Еўропе. Пасля цяжкага крызісу 14 ст., калі ў выніку пагаршэння клімату (пахаладання), неўраджаяў і эпідэмій (найстрашнейшай была чума “Чорная смерць”) насельніцтва кантынента

істотна скарацілася. У некаторых раёнах Еўропы павымірала больш за палову жыхароў. Але пад канец 15 ст. пачаўся чарговы еўрапейскі дэмаграфічны цыкл, менавіта фаза ўздыму. Хутка расла колькасць насельніцтва, узнікалі новыя вёскі і гарады, у ВКЛ з'явілася новая форма паселішчаў, пераходная між вёскай і горадам, – мястэчкі – лакальныя цэнтры гандлю і рамясла.

Дэмаграфічны рост пацягнуў за сабой развіццё эканомікі. Археолагі, і я ў іх ліку, добра ведаюць па масавай матэрыяльнай культуры, што ў культурных слаях гарадоў і мястэчак ад канца 15 ст. павялічваецца колькасць знаходак, з'яўляюцца новыя катэгорыі матэрыяльнай культуры: шкляныя начынні, паліхромная кафля, металёвыя падкоўкі на боты і інш.

## 15 ст. – вяршыня магутнасці ВКЛ

15 ст. – перыяд найвышэйшага ўздыму ВКЛ і яго значэння на міжнароднай арэне. Пры гаспадаранні Вітаўта (1392–1430 гг.) ВКЛ здабыло лідарства ва Усходняй Еўропе і заняло тэрыторыю ад “мора да мора” (ад Балтыйскага да Чорнага). І хоць у 16 ст. лідарства ў рэгіёне перахапіла Вялікае Княства Маскоўскае, гэта не спыніла далейшага развіцця гаспадаркі і культуры ў ВКЛ.

## Дамінацыя беларускай мовы ў ВКЛ

Ад самага пачатку існавання ВКЛ для абслугі дзяржаўнага жыцця была прынятая старабеларуская мова як найбольш развітая ў краіне. У 15–16 стст. гэтая мова ўвайшла ў прыватнае жыццё арыстакратыі балцкага паходжання. Як зазначыла вядомы мовазнаўца прафесар Соф'я Кужова: у 16 ст. “русінская мова” запанавала “...не толькі як дзяржаўная і афіцыйная мова (як, напрыклад, латынь у сярэднявечнай Польшчы), але як мова хатняя і сямейная ў колах магнацкіх, а потым баярскіх”.




Ад сярэдзіны 16 ст. у ВКЛ замацаваўся звычай складання пісьмовых актаў. Агромністая колькасць актавых дакументаў амаль да канца 17 ст. ствaралася на старабеларускай мове, а не на латыні, як у большасці еўрапейскіх краінаў. Па-беларуску вялося летапісанне, ствараліся літаратурныя творы, складаліся міжнародныя дамовы.

Гэтая мова ў ВКЛ стала не толькі сродкам дзяржаўнай і прыватнай камунікацыі, але і сродкам культуры. Беларусь была адной з першых краінаў Еўропы, якая выдрукавала Біблію на нацыянальнай мове.

У 15–16 стст. беларушчына агарнула ўсю сацыяльную структуру грамадства. Беларускай мовай карысталіся ўсе, ад сялянаў да вялікіх князёў. Такое ў гісторыі краіны больш не паўтаралася ажно да сённяшняга дня.

Сітуацыя пачала змяняцца пасля Люблінскай уніі з прыспяшэннем працэсу самапаланізацыі сацыяльных элітаў: магнатэрыі, шляхты і мяшчанства. У 1697 г. беларуская мова афіцыйна была пазбаўленая афіцыйнага статусу.

## Крызіс беларускай культуры ў 17–19 стст.

Тым не менш культурніцкі патэнцыял, назапашаны ў гэты перыяд росквіту, дазволіў беларускаму народу пратрываць стагоддзі сістэмнага крызісу нацыянальнай культуры, менавіта паланізацыю і русіфікацыю ў 18–19 стст. Беларушчына захавалася найперш у традыцыйнай народнай культуры, на аснове якой і пачалося нацыянальнае адраджэнне, менавіта стварэнне беларускага нацыянальнага руху ў другой палове 19 – пачатку 20 ст.

Такім чынам, супадзенне ў 15–16 стст. некалькіх чыннікаў: дэмаграфічны і гаспадарчы ўздым, афіцыйны статус беларускай мовы ў моцнай дзяржаве, пашырэнне мовы ў прыватным жыцці ўсіх грамадскіх пластоў ВКЛ – сапраўды дазваляе акрэсліць 15–16 стст. як залаты век беларускай культуры. Галоўная прычына з'яўлення такога перыяду ў гісторыі Беларусі – дзейнасць дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ.

| | |
|---|---|
| **Сёмая тэма** | **Чаму Вільня прайграла Маскве?** |
| **Відэа** | https://youtu.be/dskYohitC68 |
| **Веды** | • ВКЛ як цэнтр аб'яднання ўсходнеславянскіх земляў<br>• Страта дамінавальнай пазіцыі ва Усходняй Еўропе на карысць Масквы |
| **Рэсурсы** | • Снапкоўскі У.Е. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі. Мн.: БДУ, 2003. С. 59–124, 121–138.<br>• Краўцэвіч А. Гісторыя Вялікага Княства Літоўскага. 1248–1377 гг. Гародня; Уроцлаў, 2015.<br>• Гісторыя Беларусі ў 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд ВКЛ. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 388–488. |

# 7. Чаму Вільня прайграла Маскве?

ВКЛ і Маскоўская дзяржава працяглы час – некалькі стагоддзяў змагаліся за ролю галоўнага цэнтра аб'яднання ўсходнеславянскіх земляў, ці "Русі", па тагачаснай тэрміналогіі. Канцэпцыю пра існаванне двух аб'яднаўчых цэнтраў на рускіх землях – Вільні і Масквы высунула яшчэ расейская гістарыяграфія ў 19 ст. (у тым ліку буйнейшы даследчык ВКЛ Мацей Любаўскі).

## Вільня як цэнтр аб'яднання Русі

Вільня рэальна стала такім аб'яднаўчым цэнтрам нашмат раней за Маскву, прынамсі на паўтара стагоддзя. Актыўнае далучэнне да




*План Вільні (1576)*

ВКЛ усходнеславянскіх, найперш беларускіх, земляў пачалося пры гаспадаранні Гедыміна ў 1316–1341 гг. Ягоны сын і наступнік – вялікі князь Альгерд у 1358 г. агучыў у лісце да германскага імператара стратэгічную мэту ўсходняй палітыкі ВКЛ. Яна акрэслівалася адным сказам: “Уся Русь павінна належаць да Літвы”. За гэтай дэкларацыяй стаяла рэальная сіла: у складзе ВКЛ ужо былі ўся Беларусь і амаль уся Украіна, уладу Альгерда прызнавала значная частка княстваў Паўночна-Усходняй Русі – будучай Расеі.

Маскоўскае княства пачало ўзвышацца ад першых дзесяцігоддзяў 14 ст., але амаль паўтара стагоддзя было вымушана змагацца за першынство сярод іншых расейскіх княстваў, фармальна аб'яднаных

у Вялікае Княства Уладзімірскае пад уладай Залатой Арды. Расейскія князі мелі складаную задачу – узмацняцца коштам супернікаў і адначасова пераконваць хана ў сваёй лаяльнасці. Паступова на працягу 14 ст. першынство ў гэтым суперніцтве здабылі маскоўскія князі, якія выйгравалі ў цвярскіх, разанскіх ці ніжагародскіх.

## Масква канкурэнтам ВКЛ у Русі

Першае збройнае сутыкненне паміж ВКЛ і Масквой у змаганні за ўплывы на Русі адбылося ў 1335 г., калі маскоўскі князь Іван Данілавіч (Каліта) выслаў войска ў паўночную Смаленшчыну, каб адабраць у ліцвінаў важнейшы камунікацыйны вузел Усходняй Еўропы, месца, адкуль выцякалі галоўныя рэкі рэгіёна: Днепр, Волга, Заходняя Дзвіна і Ловаць.



*Бітва на Сініх Водах*

І Маскоўскае княства, і ВКЛ скарысталіся аслабленнем, фактычна распадам Залатой Арды ў сярэдзіне 14 ст. Масква ўзмацніла сваю пазіцыю ў Паўночна-Усходняй Русі, ВКЛ упершыню нанесла паразу татарам на іх тэрыторыі ў слыннай бітве на Сініх Водах у 1362 г. і заняло Украіну з Кіевам. Па ацэнках украінскіх гісторыкаў, ліцвінская перамога на Сініх Водах вярнула ўсю Цэнтральную Украіну ў еўрапейскую цывілізацыю.

У 14 ст. Масква была занадта слабая, каб весці вайну непасрэдна з ВКЛ. Вільня ў Паўночна-Усходняй Русі падтрымлівала ворагаў Масквы, найперш Цвярское княства. Ліцвінскія войскі неаднаразова ўрываліся на тэрыторыю Маскоўскай дзяржавы, даходзілі да Масквы (слынныя паходы Альгерда ў 1368 і 1370 гг.). Маскоўскія войскі ніводнага разу ў 14 ст. на тэрыторыю ВКЛ не ўступілі.

## Масква перамагае ВКЛ

Сітуацыя пачала змяняцца ад сярэдзіны 15 ст., падчас гаспадарання ў ВКЛ Казіміра Ягайлавіча. Маскоўскае княства пераадолела перыяд дэстабілізацыі, калі за ўладу ў ім змагаліся розныя групоўкі феадалаў, і зноў узмацнілася пад кіраваннем Івана III (1462– 1505 гг.). Казімір Ягайлавіч быў абраны яшчэ і польскім каралём у 1447 г. і ад таго часу амаль бязвыездна знаходзіўся ў Польшчы. Ён быў цалкам заняты няпростымі праблемамі Польскага каралеўства, найперш трынаццацігадовай вайной з Тэўтонскім ордэнам, і зусім занядбаў справы ВКЛ.

Знешняя палітыка ВКЛ аказалася практычна паралізаваная, бо пры адсутнасці гаспадара дзяржаўная рада (Паны-рада) не магла ні выслаць пасольства, ні аб'явіць вайну, ні сабраць паспалітае рушэнне. Гэтым напоўніцу скарысталася Маскоўская дзяржава. Спачатку яна збройна ці дыпламатычна падпарадкавала княствы Паўночна-Усходняй

Русі ў сваёй зоне ўплыву, акрэсленай “вечным даканчэннем” з ВКЛ у 1449 г. Потым заваявала ліцвінскіх саюзнікаў, пры поўнай бяздзейнасці ВКЛ: Вялікі Ноўгарад у 1478 г. і Цвярское княства ў 1485 г.

У 1480 г. супольны паход на Маскву войскаў ВКЛ і Вялікай Арды, інспіраваны ліцвінскай дыпламатыяй, сарваўся, бо ліцвінскае войска проста не з'явілася на месцы збору і Маскоўскае княства фармальна пазбылася татарскага сюзерэнітэту.

Адразу пасля смерці Казіміра ў 1492 г. Масква ўпершыню пачала адкрытую вайну, дакладней серыю войнаў, супраць ВКЛ, у выніку якой за тры дзесяцігоддзі ВКЛ страціла 1/3 дзяржаўнай тэрыторыі. Справа змены лідара ў рэгіёне была вырашаная. Далей на працягу трох стагоддзяў быў толькі наступ Масквы, часам перарываны паўзамі і адступленнямі (як “Смута” ў пачатку 17 ст.), ажно да канца 18 ст., калі Расея паглынула большую частку тэрыторыі ВКЛ.

Падсумоўваючы: ВКЛ прайграла ў змаганні з Масквой між сярэдзінай і канцом 15 ст., хоць валодала нашмат большым людскім і ваенным патэнцыялам. Прычына – няўдольнае кіраўніцтва дзяржавай, дакладней, яго амаль поўная адсутнасць у галіне знешняй палітыкі.

| Восьмая тэма | Якое месца займае ВКЛ у беларускай гісторыі? |
|---|---|
| Відэа | https://youtu.be/afnbfX5IfYk |
| Веды | • Нацыянальная спадчына ВКЛ<br>• Дыскусія пра нацыянальную прыналежнасць ВКЛ |
| Рэсурсы | • Гісторыя Беларусі ў 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд ВКЛ. Мн.: Экаперспектыва, 2008. С. 638–641.<br>• Краўцэвіч А. Да праблемы этнічнай ідэнтыфікацыі Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2003. Nr 19. S. 212–218.<br>• Краўцэвіч А.К. Вялікае княства Літоўскае ў этнагенезе беларусаў [у:] Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: Матэрыялы Рэспубл. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1. Гродна, 2003. С. 181–184.<br>• Кравцевич А., Смоленчук А., Токть С. Белорусы: нация Пограничья. Вильнюс: ЕГУ, 2011. С. 78–84. |

## 8. Якое месца займае ВКЛ у беларускай гісторыі?

Істотную ролю ВКЛ у гісторыі Беларусі, найперш у фармаванні беларускага народа, прызнаюць усе, нават беларускія афіцыёзныя і прарасейскія гісторыкі. Толькі апошнія ўслед за прамінулай савецкай гістарыяграфіяй ацэньваюць яе як негатыўную. Нібыта беларусы ў ВКЛ эксплуатаваліся (выказванне прэзідэнта Лукашэнкі).

Паводле гэтай, каланіяльнай па сутнасці гістарыяграфіі, у ВКЛ у 14–17 стст. праходзіла фармаванне беларускага народа, але як бы насуперак дзяржаве, бо дзяржава была летувіская. Беларусаў спачатку заваявалі

летувіскія феадалы, потым апалячвалі польскія. Беларусы як народ сфармаваліся толькі таму, што ўвесь час трымалі сувязь з братнім расейскім народам і змагаліся за ўз'яднанне з ім.

Зусім па-іншаму бачыць ролю ВКЛ у гісторыі Беларусі нацыянальная гістарыяграфія. У ёй ацэнкі вагаюцца ад прызнання вельмі значнай да вырашальнай ролі гэтай дзяржавы ў фармаванні беларускага народа.

## Роля ВКЛ у гісторыі беларускага народа

Разгледзім факты. Беларускія землі-княствы адыгралі найважнейшую ролю ўжо ў стварэнні ВКЛ, першай сталіцай дзяржавы, як вядома, быў Навагрaдак.

На працягу дзейнасці ВКЛ да канца 18 ст. месца яго ўзнікнення – гістарычная Літва стала амаль цалкам часткай этнічнай беларускай тэрыторыі. ВКЛ упершыню ў гісторыі аб'яднала ўсе этнічныя беларускія землі ў адной дзяржаве – большасць пры вялікім князі Гедыміне: Літву, Русь-Полаччыну і Палессе, рэшта вялікім князем Альгердам, а ў першым дзесяцігоддзі 15 ст. Вітаўт далучыў да ВКЛ Смаленскую зямлю.

Гістарычны досвед паказвае, што ў Сярэднявеччы і ў Новым часе менавіта дзяржаўныя арганізацыі адыгралі галоўную ролю ў фармаванні сучасных еўрапейскіх народаў. Этнічная аснова, на якой будавалася дзяржаўнае жыццё (мова, культура, звычаёвае права і інш.), станавілася дамінавальнай, і шматэтнічныя еўрапейскія дзяржавы паступова пераўтвараліся ў монаэтнічныя. Этнічная аснова ВКЛ была пераважна беларускай. У працэсе дзейнасці дзяржаўнай арганізацыі беларушчына ўзмацнялася, напрыклад, славянізоўваліся прадстаўнікі арыстакратыі балцкага паходжання.

Даследчыкі звяртаюць увагу на супадзенне дзяржаўнай мяжы ВКЛ на ўсходзе з мяжой этнічнага арэалу беларусаў. Як зазначыў




польскі мовазнаўца прафесар Беднарчук: “Такім чынам, дзякуючы прыналежнасці да Вялікага Княства Літоўскага беларушчына не стала пераходнай зонай рускіх дыялектаў, але самастойнай мовай, вырасшы ў ім да рангу афіцыйнай дзяржаўнай мовы”.

Дзейнасць дзяржаўнай арганізацыі ВКЛ належыць да аднаго з двух найважнейшых гістарычных чыннікаў, якія прывялі да фармавання беларускага народа. Другім быў больш працяглы па часе працэс балта-славянскіх кантактаў, які стварыў этнічную аснову беларускага народа.

## ВКЛ і крызіс беларушчыны пасля Люблінскай уніі

Што праўда, у ВКЛ пачынаючы ад Люблінскай уніі 1569 г. беларуская культура перажывала сістэмны крызіс, які праяўляўся ў паланізацыі, дакладней, самапаланізацыі сацыяльных элітаў – магнатэрыі і шляхты, потым мяшчанства. Ва ўмовах палітычнай сістэмы – шляхецкай дэмакратыі, запазычанай з Польшчы, адбываўся працэс уніфікацыі ў адзіны польскі народ палітычнага народа Рэчы Паспалітай – шляхты рознага этнічнага паходжання. Акрамя беларускай, яшчэ ўкраінскай і летувіскай.

Дзяржаўная арганізацыя Рэчы Паспалітай і ВКЛ як яе складовай часткі абапіралася на польскую этнічную аснову. У выніку беларускі, украінскі і летувіскі народы страцілі арыстакратыю, якая спаланізавалася, і ў навейшы час увайшлі як г.зв. сялянскія народы.

## ВКЛ і сучасная Беларусь

Тым не менш некалькі стагоддзяў дзейнасці ВКЛ у кантэксце беларускай мовы і культуры не прайшлі бясследна. Беларуская культура захоўвалася ў найбольш кансерватыўным (але і найбольш шматлікім) грамадскім саслоўі – сялянстве ў выглядзе мовы і традыцыйнай культуры, на якой і пачыналася пабудова беларускай нацыі ў 19–20 стст. Падобныя працэсы праходзілі і ў іншых краінах Еўропы, напрыклад Чэхіі, Славакіі, Славеніі, Украіне.



Магчыма, моўная беларусізацыя летувіскага сялянства на сутыку з беларускім этнічным абшарам у

19 ст. была своеасаблівай гістарычнай інерцыяй, памяццю пра былую дамінацыю ў ВКЛ беларускай мовы.

Пасля прыходу да ўлады ў Беларусі прэзідэнта Лукашэнкі была зробленая спроба рэанімаваць савецкую канцэпцыю ВКЛ як летувіскай дзяржавы, варожай беларусам. Мінула больш за два дзесяцігоддзі, і можна канстатаваць, што спроба аказалася няўдалай. Высілкі беларускіх гісторыкаў ВКЛ не прайшлі марна, і на сённяшні дзень гэтая дзяржава трывала ўвайшла ў масавую свядомасць беларусаў як адзін з важнейшых этапаў гісторыі беларускай дзяржаўнасці.

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЭСЭ

- Месца і абставіны ўтварэння Вялікага Княства Літоўскага.
- Ці ўсе беларускія этнічныя землі ўвайшлі ў склад Вялікага Княства Літоўскага?
- Ці спрыяла дзяржаўная арганізацыя Вялікага Княства Літоўскага развіццю беларускай мовы і культуры?
- Ці можна акрэсліць Вялікае Княства Літоўскае як беларускую дзяржаву?

## ТЭСТЫ

**Прычыны ўзнікнення Вялікага Княства Літоўскага**

- эвалюцыя балцкіх плямёнаў ад першабытнага ладу да дзяржаўнага
- знешняя пагроза ад мангола-татараў і крыжакоў
- заваёва Міндаўгам Літвы для Наваградка

**Як і калі пачыналася Вялікае Княства Літоўскае?**

- у канцы 12 ст. праз аб'яднанне Жамойці і Аўкштоты
- на мяжы 12–13 стст. праз заваёву летувісамі заходнерускіх (беларускіх) земляў
- каля 1248 г. у выніку саюза горада-дзяржавы Наваградка і балцкага кунігаса Міндаўга

**Якія народы прэтэндуюць на спадчыну Вялікага Княства Літоўскага?**

- палякі, летувісы, беларусы, украінцы
- найперш летувісы і беларусы
- беларусы, расейцы, палякі

**Якому народу найбольш паспрыяла дзейнасць дзяржаўнай арганізацыі Вялікага Княства Літоўскага?**

- летувісам
- беларусам
- палякам

**Паміж якімі цывілізацыямі выбіралі эліты Вялікага Княства Літоўскага?**

- расейскай і еўрапейскай
- польскай і расейскай
- візантыйскай і заходнееўрапейскай

**У якой форме адбываўся выбар цывілізацыйнай арыентацыі?**

- праз пратэкцыю каталіцызму
- праз пратэкцыю праваслаўю
- падпарадкаванне германскаму імператару

**Панавальная рэлігія ў Вялікім Княстве Літоўскім да канца 16 ст.**

- праваслаўе
- да 17 ст. колькасная перавага праваслаўя, палітычная – каталіцызму
- раўнапраўе ўсіх хрысціянскіх канфесій

**Контррэфармацыя ў рэлігійным жыцці Вялікага Княства Літоўскага**

- прывяла да палітычнай дамінацыі каталіцызму
- пацярпела паразу ў змаганні з пратэстантызмам і праваслаўем
- прывяла да рэгіянальнай царкоўнай уніі (Берасцейскай)

**Вялікае Княства Літоўскае на міжнароднай арэне**

- У другой палове 14–15 стст. дамінавала ва Усходняй Еўропе
- Ад апошніх дзесяцігоддзяў 14 ст. – важны палітычны чыннік Цэнтральна-Усходняй Еўропы
- У 15–16 стст. адна з мацнейшых еўрапейскіх дзяржаў

**Месца Вялікага Княства Літоўскага ў еўрапейскай гаспадарцы**

- частка еўрапейскай гаспадаркі-свету
- мела ўласную амаль незалежную ад Еўропы гаспадарку
- у асноўным крыніца сыравіны і сельгаспрадуктаў

**Беларуская культура ў Вялікім Княстве Літоўскім**

- дамінавала да канца 16 ст.
- дэградавала ў выніку летувіскай заваёвы
- расквітнела ва ўмовах сінтэзу мясцовых і еўрапейскіх традыцый

**Прычыны сістэмнага крызісу беларускай культуры ў 17–18 стст.**

- войны з Масквой
- паланізацыя сацыяльнай эліты
- наступ контррэфармацыі

**Хто быў галоўным ініцыятарам літоўска-маскоўскіх войнаў у 15–18 стст.**

- Масква
- Вільня
- Кракаў

**Прычыны паразаў Вялікага Княства Літоўскага ў войнах з Масквой**

- мілітарысцкі характар Маскоўскай дзяржавы
- нізкі ўзровень прафесійнага войска Вялікага Княства Літоўскага
- няўдольнае кіраўніцтва Вялікага Княства Літоўскага

**Як Вялікае Княства Літоўскае паўплывала на фармаванне беларускага народа?**

- запаволіла
- прыспешыла
- Вялікае Княства Літоўскае – асноўны чыннік

**Этнічная тэрыторыя беларусаў у Вялікім Княстве Літоўскім**

- зменшылася ў выніку летувіскай каланізацыі
- павялічылася коштам летувіскай
- засталася без зменаў

Правільныя адказы даступныя ў секцыі “Тэсты” на старонцы курса: http://ostrogorski.academy.

# ПРА АКАДЭМІЮ АСТРАГОРСКАГА

Акадэмія Астрагорскага – гэта некамерцыйны асветніцкі праект, прысвечаны распаўсюду гуманітарных ведаў. Акадэмія – гэта своеасаблівы беларускі анлайн-універсітэт, у аснове якога цыклы лекцый на важныя і цікавыя тэмы.




Кожны цыкл лекцый чытаецца вядомымі беларускімі экспертамі з Беларусі і замежжа, а таксама ўключае графічныя ілюстрацыі, транскрыпты лекцый, электронную кнігу, падкасты і спасылкі на дадатковыя крыніцы інфармацыі.

## Місія Акадэміі Астрагорскага

- **Зрабіць даступнай якасную адукацыю**

  Кожны павінен мець магчымасць навучацца на роднай мове з любой кропкі свету, а доступ да высокаякаснай адукацыі дасць штуршок да развіцця ўсёй Беларусі.

- **Злучыць беларускую і міжнародную акадэмічныя супольнасці**

  Адукацыя ў Беларусі застаецца шмат у чым ізаляванай ад сусветных тэндэнцый, таму мы прыцягваем найлепшых беларускіх навукоўцаў, якія працуюць на Захадзе і ў Беларусі, каб прынесці інавацыі ў беларускае навучанне.

- **Прасоўваць каштоўнасці адкрытага грамадства і вяршэнства права**

  Праз адукацыю мы імкнемся ўзмацніць беларускую грамадзянскую супольнасць. Веды, якія мы распаўсюджваем, дапамогуць зрабіць беларускую эканоміку канкурэнтаздольнай, а кіраванне больш эфектыўным і сучасным.

- **Развіваць беларускую культуру і ідэнтычнасць**

  Большасць матэрыялаў Акадэміі Астрагорскага прадстаўленыя на беларускай мове. Гэта вынікае з нашага пераканання, што поспех Беларусі ў значнай ступені звязаны з развіццём уласнай ідэнтычнасці.

## Каардынатары Акадэміі

**Прафесар Яраслаў Крывой**

Заснавальнік і дырэктар
Цэнтра Астрагорскага

y.kryvoi@ostrogorski.org

**Рыгор Астапеня**

Дырэктар па развіцці
Цэнтра Астрагорскага

r.astapenia@ostrogorski.org